скаго шляхоцтва з звальненьнем „a scartabellatu“ дапушчэны Якуб і Лаўрэн Бэрнатовічы, Францішк, Багуслаў і Сымон Кононовічы, Ігнат Ключэўскі, Антон Лясковіч, Антон Сікорскі (Vol. Leg. VII fol. 801).

Да нашай задачы не належыць вылічаньне ўсіх шляхоцкіх родаў, прынятых да шляхоцкіх гэрбаў з звальненьнем „a scartabellatu“; аднак, нельга прайсьці моўчкі міма аднэй з'явы, каторую асабліва адзначывае ухвала Генэральнай Конфэдэрацыі на Конвокацыі Варшаўскай 1764 году, у каторай гаворыцца:

«Калі па ўсей Польшчы узрасло асабліва чысло нэофітоў (толькі-што прыняўшых хрысьціянство—*Рэд.*), каторые праз прыродную здольнасць і прагавітасьць да шляхоцкіх прывілееў і дабываньня урадаў і земскіх маетнасьцей с крыўдай для радавітай шляхты адважыліся цiснуцца, а каронные правы ніякіх гэткім людзям не стаўляюць варункаў, асабліва адзін пункт у Літоўскім Статуце ў раздзелі 12, артыкуле 7, параграфе астатнім, неаглядна напісаны, дэкляраваў лічыць за шляхту нэофітаў, а пазьней зацьверджэные законы аб нобілітацiях загадываюць ня іншай дарогай асобам рэкамэндаваным і заслужоным даходзіць да клейноту польскаго шляхоцтва, як толькі за згодай станаў Рэчыпосполітай на сэймах. Праз тое ўважаючы, каб гэны род нэофітаў не зацьміў с часам гэтаго роду польскай шляхты племі, мець хочэмо і пастанаўляем, каб гэные нэофіты, або іх патомные, каторые бы хацелі і былі здольны ўдацца да местовай кондыцыі, — карысталі з усіх тых вольнасьцей, як і шляхотные мешчане; а каторые бы хацелі працаваць на раллі, каб с тэйжэ раллі і грунту прыстойны чынш уласным таго грунту паном плацілі». (Vol. Leg. VII. fol. 74). Перэказаная ухвала зрабіла тое, што на Коронацыйным Сэйме 1764 году на інстанцію У. У. Паслоў правінцыі В Кн. Літоўскаго пастаноўлено: „дыстынгованьшых с-паміж таго гатунку нэофітаў, а так сама і іх патомкаў, нам рэкомэндаваных, як-то: Францішка і Людвіка Лызынскіх, Абрамовічоў, Ігната і Язэпа Герскіх, Фэліцыяна Казімерскаго, Тодара Лютынскаго, Міхала Осьвецімскаго, Андрэя Пржэвлоцкаго, Сьвёнтэцкіх, Антона Маёскаго, Яна Новакоўскаго, Фр. Мацея і Антона Добржынскіх, Адама, Паўла, Петра, Ігната і Яна Збітнеўскіх, Антона Трояноўскаго, Казіміра Паўлоўскаго, Яла Міхалоўскаго, Петра Паўловіча, Якуба Еленьскаго, Мацея Еленьскаго, Станіслава Еленьскаго, Яна Ліпінскаго, Орлоўскаго, Манькоўскаго, Язэпа Квецінскаго Доміника Добровольскаго, Якубоўскаго, Тамаша і Антона Позёмкоўскіх, Яна Добровольскаго, Францішка Кржыжаноўскаго, Войцеха Шыманскаго, Тадэуша Бельскаго, Язэпа Шпачкевіча, Нізельскаго, Станіслава Ярмунда, Бонавэнтуру Бартошэвіча, Язэпа Познанскаго, Андрэя Маніна, Невяроўскаго, Фэліцыяна Янкоўскаго нобілітуем з агульнай згоды станаў і ім «praeciso etiam scartabellatu, praerogativis nobilitaribus» у самай Літве «gaudere cum successoribus» пазваляем». (Vol. Leg. VII. fol. 420).

Калі да гэтаго дацамо нобілітованых (прынятых да шляхоцкаго стану) чужаземцаў: Морыконіх, Тызэнгаўзоў, Бэрэнсоў, Вагнэроў, Плятэроў, Ромэроў, Вольмэроў, Быстрамоў, Роппоў, Ваксэлёў, Зубовых, Рэйхелёў, Бруновых, Торновых, Шульцоў, Шылінгоў, Элертоў і іншых, дык склад цяперашняй краёвай шляхты ў Літве наводзіць на думку, што, калі цяперашняя шляхта не прызнае за сабой ніякіх павіннасьцей перад насяленьнем Краю, калі сваю работу вядзе дзеля дэнацыоналізацыі адвечных жыхароў гэтай зямлі, — дык чы ёсць якая будзь моральная аснова старацца здабыць гэту шляхту для Краю, гонючыся хаця-бы за яе бытцым то інтэлігэнтнасьцю? Калі краёвая шляхта жадае астацца у Краю, дык яна буцзэ прымушэна або дапасавацца да новых варункоў супольнаго з другімі жыцьця, або выдаць на сябе сьмяротны прысуд. Аднак, трэба спадзевацца, што новае пакаленьне шляхты лепей зразумее новые варункі перавагі дэмократычнай краёвай інтэлігэнцыі і захочэ астацца ў радох краёвых працаўнікоў, а не ў радох чужынцоў. *гк.*

**Ад рэдакцыі**. Беларусы былі проці палітычнай Уніі (злучэньня) с Польшчай, дзеля гэтаго яны і не падпісалі акту Уніі Віленскай. Падпісаў гэны акт В. Князь Ягайла (магчыма с прычын дынастычных), і літоўскіе магнаты.

Тое, што на акце Люблінскай уніі няма родаў літоўскіх, а толькі беларускіе, тлумачыцца тым, што ўсе паслы Вялікаго Князьства Літоўскаго, беларусы і літвіны, спачатку адмовіліся падпісаць акт гэнай Уніі; беларусы-ж пасьля вярнуўшыся, падпісалі яго, бо мелася быць вайна з Маскоўшчынай, каторая гразіла перш-на-перш Беларусі, а ваеваць разам проці Маскоўшчыны і Польшчы было цяжка.

# У Вільні і ваколіцах.

× **У Беларускім Клюбе.** У нядзелю 2.XII а г. 7 веч. п. Соболеўскі, майстэр хітраго гадзінніка, аб каторым мы пісалі у «Гомане», будзе дэмонстраваць свой гадзіннік-касьцёл і яб'ясьняць яго конструкцію.

× **Беларускі магнат — лятун.** Кн. Станіслаў Сапега Вой, выступіўшый, як мы ўжо пісалі, з усіх польскіх організацій за варожые адносіны палякоў да беларускаго руху, — гэта знамяніты лятун. У № 312 «Berlin Tgbl.» ваенны карэспандэнт пры аўстрыяцкай арміі ў Тыролі, Адэльт, пішэ:

«Адважны паступак кн. Сапегі на вышыні 5.000 мэтраў, выляцеўшаго с Тыролю у Спэцію і вярнуўшагося назад без ніводнай кроплі бэнзыны, можэ ўдацца толькі адзін раз».

Эндэцкая газэта «Gazeta Narodowa» ў № 223 пішэ з гэтай прычыны:

„У гісторыі лётаньня выступае ізноў польскае (!—Рэд. «Гом.») імя, звязанае з незвычайным паступкам“.

Што Сапегі — род беларускі, гэта напэўна вядома рэдакцыі «Gazety Narodow.» А кн. Станіслаў Сапега, аб якім тут ідзе гутарка, сам заявіў праз газэты, што ня лічыць сябе за паляка, а за беларуса.

Са свайго боку дзякуем эндэцкай газэці за пахвалу беларусу.

× **Дамы—на апал.** Бюро VIII цыркулу местовай камісіі апекі над пакінутымі дамамі просіць нас апавесьціць, што ўсе ведамасьці аб назначэных на прадажу з ліцытацыі на дровы дрэўляных будынкаў можна атрымліваць у гэтым бюро, Аб'ездная 6, у будные дні ад 9 да 1 гадзіны.

× **Прадажа з ліцытацыі.** У местовым лёмбардзі (Троцкая 14) 18, 19 і 20 сьнежня ад 10 да 12 гадз. паабедзі будзе адбывацца прадажа з ліцытацыі рэчэй, тэрмін залогу для каторых ужо мінуў і каторые павінны былі быць выкуплены не пазьней 31 жніўня 1917 г.

× **Цэны газу.** Пачынаючы ад 1 лістапада г.г. устанаўліваюцца за газ гэткіе цэны: дзеля асьвятленьня за 1.000 куб. стоп—м. 16,50, дзеля апалу — м. 14.00. Агульная цэна дзеля асьвятленьня і апалу —м. 15,25 за 1.000 куб. стоп.

× **Аб расклейцы абвестак.** Паводлуг апавешчэньня Stadthauptmanna, надалей абвесткі на вуліцах павінно расклеіваць толькі асобнае бюро, Домініканская 2, пакой 125. Хто хочэ вывесіць абвестку, павінен падаць у цэнзуру ў Presse-Stelle 5 эгзэмпляроў яе. Атрымаўшы пазваленьне, ён аддае абвестку ў паменёнае бюро.

× **Аб закрываньні крам.** Загадам Stadthauptmann'a ўсе крамы павінны адгэтуль зачыняцца а 5 г. паабедзі.

× **Культуры мышынаго тыфусу** па 2 м. 50 ф. за 250 грам. прадаюцца ў пакоі 128, Домініканск. 2.

× **Скорая помач.** У прошлым тыдні, зн. т. ад 19.XI. да 25.XI. ўлучна скорая помач дазена у 57 прыпадках, у тым ліку было 35 выездоў і у 22 прыпадках помач дадзена на станцыі.

# Беларускіе легенды.

## Чорнакніжнік і зьмея, што вылупілася с пятушынаго яйца.

(Глядзі „Гоман“ № 94).

Карпа вітаецца з ім і просіць, каб сеў на покуці; раступаюцца госьці, ён седае хрыбтом апёршыся аб сьцяну, з гары разглядае ўсіх стаячых ля сябэ. Карпа падае яму гарэлкі і закускі.—„А дзеж твая Гануля, маладая гаспадыня? Ці яна так занята, або можэ мяне не пазнала? Я пастарэў, а яна вельмі маладая, яшчэ ёй трэ' вучыцца, як жыць на сьвеці“.—Карпа прыводзіць Агапку. Той глянуўшы на яе смутны твар: — „Не смуціся—кажэ—пажывеш, палюбіш і добра будзе“.

Акім, селянін задняе воласьці, прыгоньнік пана К. Г., быў калісь у вялікай злосьці с Парамонам. Падпіўшы, бо пры гарэлцы не любіў дзяньгубіць[1]), ён прыпомніў даўнейшую злосьць, залажыў рукі за пояс, адставіў правую нагу, стоючы перад Парамонам і гледзючы яму у вочы, гэтак адазваўся: А! кланяюся.

Няўчом котка хвост свой лізала,
Аж яна цябе у госьці чакала.

Усе глянулі на Акіма, не радые, што ён, ўпіўшыся, асьмеліўся жартаваць с Парамонам; баяліся каб ня выйшло адгэтуль якога нешчасьця, бо ўсе верылі ў яго чары, што ён не тыкеля можэ на людзей насылаць розные хваробы, але, калі захочэ, ўсё вясельле перакіне ў ваўкоў.

Парамон глянуў на яго з усьмешкай: — „А ты, — сказаў, — так цікуеш часам пад панскі, або суседзкі сьвіран, або туды, дзе беляць палатно, што цябе не тыкеля вартаўнік не пачуе, але гэткаго госьця і сабака ня знюхае.“

—„Га! помню добра, як мяне абвінавацілі, што я украў палатно, — адазваўся Акім: — і ты варажыў на рэшато, выклікаючы ўсіх селян. Як выклікаў маё наймення і Грышкі дудара, рэшато пакруцілося, паказало, значыцца, на нас. Аканоміха паверыла тваім чарам, нас тады бязбога білі, а пасьля даведаліся, што мы нявінна мучыліся. Нягодные твае паступкі і ў чарах тваіх німа ніякае справядлівасьці“.

Тут адазваўся і дудар Грышка: — „Га! але, помню і я: варта былоб за твaю ману ў чарах кіём падзякаваць, каб ты і з зямлі не ўстаў.

Парамон ня мог сцярпець гэтаго, заблішчэлі яго вочы, начырванеў увесь, ускочыў з лавы. Усе спалохаліся. Карпа хапае яго за шыю і просіць, каб ім даравaў, бо п'яные,—ня помняць, што кажуць; прыбегае і Агапка, хапае яго за руку, просіць выбачыць, што ў іх меў гэткую непрыемнасць, так сама Акіму і Грышку кажуць, каб яны забыліся аб былым і пагадзіліся з ім. Карпа ставіць на стале гарэлку і малістуе, каб па чарцы выпіўшы адзін да аднаго забыліся аб тым, што даўней было.

Чараўнік, крышку супакоіўшыся, — „добра—кажэ,—я пагаджуся, будзьце супакойны: я не тыкеля не хачу перарваць вясёлае гульні ў вашай хаці, але яшчэ павялікшыць яе; нехай сабе Грышка грае вясёла на дудзе, а Акім гуляе!“ — і с хітрай усьмешкай дадаў: „дык хадзеця, на просьбы гаспадара і маладое гаспадыні выпіма адзін да аднаго па чарцы гарэлкі, яшчэ пятух не запеяў: цяпер самая пара павесяліцца“. Карпа, Агапка і госьці прымушаюць Акіма і Грышку, каб яны селі за стол с Парамонам. Тые паслухалі, выпілі па чарцы, зара па другой.

— „Згода, згода — крычаць некаторые госьці, сталы застаўляны ядой, годзе і напітку, піма, гуляйма, жадаючы маладым багацьця, здароўя і даўгога жыцьця“. Запеялі песьні. Грышка надымае свой мех скуранны, моладзь гуляе. Парамон задумаўшыся з злым тварам пазірaў то на Акіма, то на дудара; трохі часу была добрая вясёлая гульня. Але якга Грышка пачынае шелёнаго якогась казака, вясельнікі крычаць і просяць, каб граў Цярэшку і пяюць «*Цярэшцы беда стала, с кім яго жана спала*“. Ён на нішто не глядзіць, з нікім не згаджаецца і ўсё сваё грае бяз ніякаго ладу. Якга Акім выбегае на сярэдзіну і пачынае скакаць, як шалёны, хто ведае па якому; дзівуюцца ўсе гледзючи і неразумеючы, што з ім сталося. Вочы яго зробіліся круглымі, твар зьмяніўся; просяць аднаго і другого, каб адзін кінуў граць, а другі гуляць,—нічога не памагае, ніякіх просьбаў ня чуюць, бытцым здурнелі абодва. Хочуць яго ўдержаць; ён мурмючы штось незразумелае, вырываецца, ўзноў гуляе, і дудар грае без перэстанку. Парамон, гледзючы на іх з боку і сьмяючыся голасна: — „Не чапайце іх, — кажэ—ніхай павеселяцца, другі раз не захочуць с кожным чапацца“. Карпа просіць, каб ім выбачыў і прыказаў перэстаць.

— „Хай яшчэ пагуляюць, — адказаў Парамон,—гэта іх навучыць, што будуць людзей разумнейшых паважаць“.

Гэткім шалам дудар і Акім доўга мучыліся. А ўжо і поўнач прайшла і другіе пеўні запеялі. На апошку Грышка выпушчае з рук дуду і валіцца на зямлю, самлеўшы. Акім хістаецца, пачарнеў увесь, якбы перад сьмерцяй.

(Далей будзе).

[1]) дзяньгубіць — ад „дзень губіць“ — марнаваць час.

лонных і шмат кулемётаў. Бітвы трывалі да ночы.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* На паўночным заходзі ад Тагір французы пакінулі ў нашых руках палонных. На усходнім беразі Маасу сільны агонь артылеры.

*Фронт Альбрэхта Вюртэмбэрскаго:* На поўначы ад Номіні сільные француские атрады пачалі наступаць на нашы лініі, але былі адбіты штыкамі.

**На ўсходнім тэатры, македонскім і італьянскім фронці**—нічога выдатнаго.

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

БЭРЛІН (урадова). «Berlingske Tidende» надрукавала чутку, бытцым генерал Людэндорф з вялікім штабам выехаў на расейскі фронт. Гэта чутка—выдуманая: генерал Людэндорф знаходзіцца пры арміі на заходнім фронці.

БЭРЛІН. (В.Т.Б). Новые ўдачы падводных лодак у паўночных водах: 20.000 тонн.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). У Англіцкім каналі нашы падводные лодкі ізноў затапілі 12.500 тонн.

ЛОНДОН (Рэўтэр). 27.XI. Ллойд Джордж выехаў сягоньня ў Париж на заседаньне вярхоўнай ваеннай рады. Тудыж выехалі Вэнізэлос і Сонніно.

ВАШЫНГТОН. У Фрыпорці пасьля дэмонстрацii за мір 115 дэмонстрантоў засуджэны ня менш як на год у вастрог.

## АБВЕСТКІ.